наша
# свабода
№27 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

30 ТРАЎНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

стр.5



ИХ ДУШИ УХОДЯТ НА НЕБО

# Дыялогу канец?

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Сёння ў 11.00 у Палацы Рэспублікі ў Мінску Аляксандр Лукашэнка мусіць сустрэцца з удзельнікамі «грамадска-палітычнага дыялога». Магчыма, што гэтая сустрэча стане апошнім днём самаго існавання дыялога – патрэбы ў ім больш няма.**

Яшчэ два тыдні таму А.Лукашэнка паведаміў беларускім і расійскім дэпутатам, што «ў нас заканчваецца дыялог з грамадска-палітычнымі сіламі, ужо ёсць ягоныя рэзультаты, якія пакладзеныя на стол кіраўніка дзяржавы для вывучэння і ўнясення прапановаў у парламент з мэтай прыняцця канкрэтных законаў. Мы прыйшлі да канструктыўнага ягонага заканчэння, і я выказаў жаданне сустрэцца з удзельнікамі гэтага дыялога».



Фота IREX/ProMedia

«Саркафаг» для дыялогу

Такім чынам, «дыялог» больш не патрэбны ўладзе. Каштоўны спектакль, разыграны для замежнікаў-дэмакратаў, не прынёс таго плёну, які чакаўся. Захад па-ранейшаму не хоча прызнаваць парламенцкія выбары, што мусяць прайсці ўвосень, справядлівымі і дэмакратычнымі. Бо сапраўднага кампрамісу паміж уладамі і апазіцыяй не было дасягнута – аб'яднаная дэмакратычная апазіцыя (БНФ, БСДП (НГ), АГП і г.д.) проста адмовілася ўдзельнічаць у гэтым шоу.

Нагадаем, што ў лістападзе мінулага года А.Лукашэнка падчас саміта краінаў АБСЕ ў Стамбуле падпісаў гэтак званую «Стамбульскую дэкларацыю». Гэтая дэкларацыя, між іншым, абавязвала яго знайсці пагадненне ў грамадстве шляхам перамоваў з апазіцыяй і правесці справядлівыя выбары.

«Перамовы» ў разуменні А.Лукашэнкі хутка пераменіліся на «дыялог». І розніца тут зусім не лінгвістычная. «Перамовы» вымагалі б пэўныя абавязкі абодвух бакоў. «Дыялог» не патрабуе нічога. «Прывітанне!»–«Здароў!». Гэта таксама дыялог – які не цягне за сабой ніякіх наступстваў.

Прадстаўнікі 96 грамадскіх арганізацыяў і 11 палітычных партыяў на працягу двух месяцаў спраўна хадзілі на «дыялог грамадска-палітычных сілаў». Цікава, што нават у «дыялогавым фармаце» гэтае дзейства не вытрымлівала ніякай крытыкі. Два месяцы дыялаганты распавядалі астатнім пра сябе, любімых.

Расійскі літаратар Вячаслаў Курыцын пісаў пра такую з'яву як «камунікатыўная фрыгіднасць». Чалавек з такім «недахопам» не можа паўнавартасна камунікаваць, весці дыялог – карацей, успрымаць новую інфармацыю. «Часта чалавек, які мае камунікатыўную фрыгіднасць, падмяняе ўласна дыялог дэманстрацыяй сябе, сваіх ведаў, навыкаў і ўменняў. Па сутнасці, гэта нічым не адрозніваецца ад паводзінаў вучонай малпы, што паказвае публіцы трукі, якім яе навучылі». У выніку атрымоўваецца не дыялог, а сумесь нашынкаваных маналогаў. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

# Дзяржаўныя газеты засталіся без грошай

Кірэй МАНУЙЛАЎ

Не выключана, што бліжэйшым часам могуць перастаць выходзіць шмат якія дзяржаўныя газеты. Справа ў тым, што ўжо больш тыдня, як перапыненае іх бюджэтнае фінансаванне.

Як сцвярджаюць урадавыя крыніцы, занадта багата сродкаў пайшло на травеньскія святы – а тут яшчэ спатрэбілася праводзіць новую пасяўную кампанію з-за нечаканых маразоў у траўні. Дзяржаўнае казначэйства тлумачыць, што ўсё проста: «Не стае грошай. Няма даходаў – няма расходаў».

А пакуль галоўныя рэдактары дзяржаўных выданняў абіваюць парогі міністэрства фінансаў і Дзяржкамдруку ў пошуках сродкаў, з кожным днём павялічваюцца запазычанасці за друк газетаў. Журналісты робяць нумар – і не ведаюць, ці выйдзе ён заўтра. Заробак выплачваецца толькі ў некаторых выданнях – тых, якія маюць уласны прыбытак ад рэкламы. Напрыклад, у «Народнай газеце».

Не трэба асабліва клапаціцца пра свой бюджэт «самай салíднай газеце» – «Советской Белоруссии». Яна мае ўласную крыніцу фінансавання – грошы ідуць з прэзідэнцкай адміністрацыі.

Чыноўнікі ў неафіцыйным парадку кажуць, што існуе загад: у любым выпадку мусяць выходзіць галоўныя рупары афіцыёзу – «Советская Белоруссия» і «Народная газета». А вось астатнія – як атрымаецца. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Сёння палата прадстаўнікоў НС мусіць разгледзець праект закона «Аб зброі».** Гэты дакумент, уніфікаваны з аналагічным законам Расіі, устанаўлівае парадак абароту зброі, боепрыпасаў і іх кантролю на тэрыторыі Беларусі. Варта зазначыць, што гэта будзе ўжо трэцяя спроба прыняць дадзены законапраект. Першыя два варыянты дакумента дэпутаты адхілілі яшчэ на стадыі разгляду праекта закона ў першым чытанні.

■ **У мінулыя выхадныя невядомыя абрабавалі офіс грамадскага аб'яднання «Цэнтр па правах чалавека», які месціцца на першым паверсе жылога дома па вуліцы Кнорына ў Мінску, насупраць кінатэатра «Партызан».** Па словах адвакаткі Веры Страмкоўскай, абрабаванне адбылося ў адзін з выхадных дзён, калі супрацоўнікаў цэнтра не было на рабочым месцы. Злачынцы пранiклі ў памяшканне праз акно, выпiлiўшы краты. З офіса скрадзеныя камп'ютэры, ксеракс, дакументы на некаторую тэхніку, праваабарончая літаратура на рускай мове, электрачайнік і 800 рублёў. Што яшчэ знікла, цяпер удакладняецца. У офісе працуюць супрацоўнікі Першамайскага РУУС Мінска. Варта сказаць, што абрабаванне офісаў праваабарончых арганізацыяў апошнім часам набывае характар тэндэнцыі. Летась у снежні быў абрабаваны офіс Беларускага Хельсінкскага камітэта, 20 траўня 2000 года – офіс праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву».

■ **У Японіі тэрмінова адключаны адзін з ядзерных рэактараў на найбуйнейшай у краіне атамнай электрастанцыі «Касівадзакі».** Гэта прэфектура Ніігата на ўзбярэжжы Японскага мора. Як паведамляюць замежныя сродкі масавай інфармацыі, у сістэме ахаладжання рэактара быў адзначаны падвышаны ўзровень радыяцыі. Мясцовыя ўлады заяўляюць, што ўцечкі замежы станцыі не адбылося.

■ **У Польшчы – самы сур'ёзны ўрадавы крызіс пачынаючы з 1997 года. Кааліцыйны кабінет міністраў пакінулі ўчора ледзь не ўсе асноўныя міністры – фінансаў, абароны, замежных справаў, юстыцыі і транспарту.** Усе яны ўваходзяць у правячую «Унію Вольнасці», а міністр фінансаў і віцэ-прэм'ер урада Лешак Бальцаровіч ачольвае яе. Такім чынам міністры выказалі нязгоду з сур'ёзнымі рознагалоссямі ва ўрадзе.

## НАДВОР'Е




Курс наяўнага долара на «чорным рынку»
**970**



## Трэба ліць люмініў!

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Засядае праўленне калгаса. Справаздачу робіць старшыня:

— Летась у нашай гаспадарцы шмат чаго накошана, надоена, наарана і набаранавана. Атрыманы пераходны Чырвоны Сцяг. Але ўся скаціна здохла, салому згнаілі, камбікармы пакралі, трактары прапілі, сеялкі-веялкі папсавалі, бульбу забыліся пасадзіць. Што будзем рабіць, каб і ў гэтым годзе атрымаць Чырвоны Сцяг?

Устае калгасны вартаўнік:

— Трэба ліць люмініў! Пакуль не позна...

— Які люмініў? Што ты вярзеш?!

— Трэба ліць люмініў, рабіць аэрапланы ды ўцякаць адсюль. Пакуль калгаснікі не працверазелі...

Заўсёды ўспамінаю гэты анекдот, калі чытаю справаздачы лукашэнкаўскай каманды. Іхнія «эканамічныя» развагі. Вось, напрыклад, урывак з навейшай праграмы ўрада: «Свой **адбітак** на эканамічнае становішча **наклалі** неспрыяльныя знешнія і ўнутраныя **фактары**. Яны выклікалі інфляцыйныя працэсы, аказалі адмоўны ўплыў на грашова-крэдытную і валютную сферы, бюджэтную сістэму. Фінансавая нестабільнасць прывяла да неплацяжоў, зніжэння асноўнага капіталу, стратнасці прадпрыемстваў, асабліва сельскагаспадарчай вытворчасці».

Гэта, прынамсі, не сакрэт. Усім вядома, што на нашую эканоміку ўжо гадоў шэсць як наклалі. Больш таго, нам добра вядомыя ўсе імёны, імёны па бацьку і прозвішчы гэтых фактараў. А іхнія адбіткі мы бачым літаральна штодня, ды чуем на кожным кроку неверагодны смурод. Дыягназ правільны, што казаць. Але што рабіць? Дзе выйсце? Што далей? А далей у праграме напісана звыкла, як трызненне: «...**нарошчванне** экспарту тавараў і паслугаў, **развіццё** аграпрамысловага комплексу, **актывізацыя** інвестыцыйнай і інавацыйнай дзейнасці» і г.д.

Якіх тавараў? Якіх паслугаў? У які бок развіваць той аграпрамысловы комплекс, калі ён даўно ўжо ляжыць, як кіт у памідорах? Дзе вы знойдзеце дурняў, якія дадуць грошай на вашае выратаванне ў выглядзе інвестыцыяў?

Няўжо вы, «эканамісты рынкавага сацыялізму», на самой справе верыце, што нешта можаце памяняць да лепшага ў нашай краіне? Яшчэ грошай надрукуеце? Няўжо вам не сорамна дурыць людзям галаву, у той час, калі яны займаюцца рэальнай эканомікай на сваіх сотках, з раніцы да вечара сагнуўшыся ракам, каб не гадалі іхнія дзеці?

Вам, хлопцы, трэба ліць люмініў, пакуль народ не працверазеў. ■

# Пакаранне для міністра

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

Савет міністраў абвясціў вымову шэрагу кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў за «грубае парушэнне выканальніцкай дысцыпліны, якое выявілася ў незабеспячэнні выканання рашэнняў прэзідэнта і ўрада па стабілізацыі цэнаў і тарыфаў, недапушчэнні росту цэнаў і тарыфаў і рэгістрацыі іх без належных эканамічных абгрунтаванняў».

У ліку тых, хто атрымаў спагнанне, — міністр лясной гаспадаркі Валянцін Зорын, першы намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Анатоль Шаціла, першы намеснік міністра спорту і турызму Генадзь Аляксеенка, намеснік старшыні Дзяржкамітэта па друку Галіна Валчуга, намеснік міністра адукацыі Аляксандр Купцоў, намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Валерый Новак і віцэ-прэзідэнт канцэрна «Беллегпрам» Анатоль Гураў.

У міністэрствах і ведамствах, чые кіраўнікі атрымалі спагнанні, не выключаюць, што парушэнні нарматыўных актаў маглі мець месца, аднак указваюць на недасканаласць дзеючых падыходаў да фарміравання сістэмы цэнаў і тарыфаў. ■

# 700 «нелегалаў» за 4 месяцы

**Рыгор БУЯН**

Такі ўлоў сабралі беларускія памежнікі за апошні час. Пра гэта паведаміў старшыня Дзяржаўнага камітэта памежных войскаў Аляксандр Паўлоўскі.



Фота IREX/ProMedia

Па ягоных словах, значная частка з гэтых 700 «нелегалаў» – гэта мігранты з краінаў Афрыкі і Азіі. А.Паўлоўскі не хавае, што асноўны паток нелегалаў ідзе з Расіі, з якою Беларусь фактычна не мае мяжы. Аднак віны саюзнай дзяржавы старшыня Дзяржкамітэта пагранічных войскаў не бачыць: «Есць такая тэндэнцыя – лічыць, што асноўная плынь нелегальных мігрантаў ідзе з Расіі. Яна не з Расіі – яна проста ідзе праз Расію». Больш за тое, віну за нелегальную міграцыю праз Беларусь А.Паўлоўскі ўскладае на ліберальнае заканадаўства краінаў Захаду, дужа прывабнае для нелегалаў.

Калі ўжо гаворка зайшла пра Захад, то Аляксандр Паўлоўскі выказаў вялікую занепакоенасць жаданнем краінаў Балтыі ўваісці ў NATO. «Калі казаць пра ваенна-палітычныя пагрозы, то іх узровень ніжэйшы, але ён ёсць. Асабліва нас насцярожвае актыўнае развіццё ў краінах Балтыі і ў Польшчы натаўскіх пазіцыяў. Наша дзяржава абвясціла, што з'яўляецца міралюбнай краінай, пагрозы ад Беларусі не ідуць. Тады паўстае пытанне: навошта NATO рухаецца на Усход?» – задаецца рытарычным пытаннем кіраўнік пагранічнага ведамства. Пакуль непасрэднай пагрозы з боку Паўночнаатлантычнага альянса не існуе, то Дзяржкамітэт пагранвойскаў вывучае перасоўванні патэнцыяльнага праціўніка.

Аляксандр Паўлоўскі заявіў таксама, што сёлета за чатыры месяцы канфіскавана каля 20 кілаграмаў наркотыкаў, а на беларускай мяжы затрыманыя 12 міжнародных тэрарыстаў, якіх шукаў «Інтэрпол». ■

# Выйдзем на адзіны курс

**Аляксей АРЭШКА**

Нацыянальны банк спадзяецца, што адзіны курс рубля сфарміруецца ў Беларусі ўжо ў трэцім квартале гэтага года. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні праўлення Нацбанка Мікалай Лузгін.

Па ягоных словах, цяпер над гэтым пытаннем займаецца спецыяльная міжведамасная група, якая ў бліжэйшы час завершыць сваю працу. Група разглядае магчымасці выхаду на адзіны курс ва ўзаемасувязі з рознымі макраэканамічнымі паказчыкамі. М.Лузгін зазначыў: «Мы жывем чатыры гады ва ўмовах множнасці курсаў і за гэты час некалькі сказілі нашы эканамічныя адносіны». У выніку, на ягоную думку, проста ўзяць і выйсці сёння на адзіны курс нельга. Узнікне перакос у цэнаўтварэнні і падаткаабкладанні, таму неабходны нейкі «пераходны перыяд».

Варта адзначыць, што пераход да адзінага курсу беларускага рубля з'ўляецца адной з умоваў на перамовах з Цэнтральным банкам Расіі па пытанні ўвядзення адзінай валюты. Апроч таго, увядзення адзінага курсу патрабуюць ад Беларусі і міжнародныя фінансавыя арганізацыі.

Паведамляючы аб выкананні планаў па росце рублёвай грашовай масы, М.Лузгін адзначыў, што на канец красавіка агульны яе аб'ём склаў 360 мільярдаў беларускіх рублёў. У другой палове года, паводле словаў намесніка старшыні Нацбанка, павінна адбыцца запавольванне тэмпаў росту грашовай масы і тэмпаў інфляцыі. ■

# Энергазберажэнне – гасі святло!

**Наталля КУЛАГІНА**

Урад будзе праводзіць жорсткую палітыку ў галіне рэсурсазберажэння і разлікаў за энергарэсурсы. Пра гэта заявіў прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын.

Ніякіх адтэрміновак па выплаце запазычанасцяў за энергарэсурсы для прадпрыемстваў, якія працуюць у рэальным сектары эканомікі, не будзе, заявіў прэм'ер. Выключэнне складае аграрны сектар, які на працягу трох гадоў знаходзіцца ў надзвычайным становішчы.

Паводле словаў У.Ярмошына, урад заўсёды падтрымліваў і будзе падтрымліваць прадпрыемствы, якія пераходзяць на энерга- і рэсурсазберагаючыя тэхналогіі, аднак такіх пакуль няшмат. «Трэба прыводзіць эканоміку свайго прадпрыемства ў той стан, каб аплаціць ужытыя рэсурсы і ў максімальнай ступені эканоміць», — сказаў Уладзімір Ярмошын.

Паводле статыстыкі, на пачатак траўня запазычанасць беларускіх прадпрыемстваў за электра- і цеплаэнергію склала каля 98 мільярдаў рублёў. Кіраўніцтва канцэрна «Белэнерга» працягвае настойваць на адмене адтэрміновак па аплаце запазычанасці спажыўцамі электраэнергіі. ■

# Рэзалюцыя не спадабалася

**Наталля КУЛАГІНА**

Беларускі амбасадар у Чэхіі Уладзімір Бельскі звярнуўся з адкрытым лістом да старшыні камітэта па міжнародных стасунках чэшскага Сената Міхала Жантоўскага.

Як паведаміла прэс-служба грамадскай ініцыятывы Хартыя'97, у лісце выказана абурэнне з прычыны нядаўняга прыняцця Сенатам Чэхіі даволі рэзкай рэзалюцыі па сітуацыі ў Беларусі. Адзначаецца, што «беларускае пасольства атрымала паведамленне аб гэтых слуханнях, дзе не ўказвалася ні даты, ні месца іх правядзення». «Мы накіравалі ў Сенат свайго прадстаўніка, якому нават не далі там слова», — піша У.Бельскі.

Уся дыскусія ў Сенаце, на думку беларускага амбасадара, была «тэндэнцыйная, няпоўная і аднабокая». «Мне хацелася б таксама зазначыць, што ўрады трэціх краінаў і міжнародная супольнасць адпаведна адрэагуюць на ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы незалежнай дзяржавы, а таксама падтрымку палітыкі гвалтоўнага звяржэння законнага ўрада», — гаворыцца ў заканчэнні адкрытага ліста. ■

## Што ні год – то крызіс

**Сяргей СНЕГІН**

У сельскай гаспадарцы Беларусі працягваецца шматгадовы спад. За студзеньтравень 2000 года вытворчасць сельгаспрадукцыі ў краіне зменшылася на 8,5% у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам.

Па-ранейшаму зніжаецца пагалоўе жывёлы (буйной рагатай — на 9% да аналагічнага паказчыка 1999 года, свіней — на 4%). Продаж жывёлы і птушкі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі зменшыўся на 9%, вытворчасць малака — на 17%. Рэзка ўзрасла крэдыторская запазычанасць у галіне — з 110,6 мільярда рублёў на 1 студзеня 2000 года да 159,9 мільярда на пачатак красавіка. ■

## Распаўсюджанне малярыі не будзе

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ**

У Гомельскую абласную інфекцыйную бальніцу паступіў 12-гадовы хлопчык з дыягназам «малярыя». Ён азербайджанец, але ўжо працяглы час разам з бацькамі нелегальна жыве ў Гомелі. Як высветлілася, сям'я часта наведвае сваіх сваякоў у Азербайджане; апошні раз яны выязджалі туды сёлета ў студзені.

Паводле словаў загадчыцы паразіталагічнага аддзела Гомельскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Алены Нараленкавай, у гэтым выпадку можна адназначна сцвярджаць, што заражэнне малярыяй адбылося за межамі Беларусі. У інтэрнаце, дзе жыве гэтая сям'я, праведзены комплекс супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў. Усе астатнія члены сям'і хворага хлопчыка – маці, бацька і 14-гадовы брат – знаходзяцца пад назіраннем медыкаў. А.Нараленкава ацэньвае стан хворага як сярэдняй ступені цяжкасці. Яна лічыць, што верагоднасць распаўсюджвання малярыі сярод людзей, з якімі мела кантакты гэтая сям'я, вельмі малая. ■

## Пікет з дзіцем на руках

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

26 траўня рэдактар незарэгістраванай газеты «Рэпортэр» А.Пісальнік правёў на ганку Гродзенскага гарвыканкама пікет, з уласным дзіцем на руках. Яго сыну Якубу няма яшчэ паўтара года. На грудзях пікетчыка вісеў плакат. З тэкста вынікала, што сп. Пісальнік «мусіць жыць на грашовую дапамогу, якую атрымлівае на сына».

Гэта ўжо другі несанкцыяваны пікет, наладжаны А.Пісальнікам. Мінулым разам ён вывеў на пляц перад гарвыканкамам усю сваю рэдакцыю. Пяць чалавек стаялі абвязаныя за шыю адной вяроўкай. Яны былі дастаўленыя ў Ленінскі РАУС горада і пасля гутаркі адпушчаныя. Цяпер сп. Пісальнік запрошаны ў міліцыю на чарговую гутарку. Дарэчы, газета «Рэпортэр» яшчэ ні разу не выходзіла, нават дазволеным для незарэгістраваных выданняў тыражом. ■



## Збіваць шары будзем разам

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

На захадзе Саюза Беларусі і Расіі будзе створаная адзіная рэгіянальная сістэма супрацьпаветранай абароны (СПА) з адзіным камандаваннем. Пра гэта заявіў галоўнакамандуючы ваенна-паветранымі сіламі Расіі Анатоль Карнукоў падчас сустрэчы з камандуючым войскамі супрацьпаветранай абароны Беларусі Валерыем Кастэнкам.

Сустрэча камандуючых доўжылася ажно тры дні – з 25 па 27 траўня, яна адбывалася спачатку ў расійскім Калініградзе, а адтуль генералы прыляцелі ў Мінск.

Як паведамілі журналістам А.Карнукоў і В.Кастэнка, на працягу трох дзён яны абмяркоўвалі праблемы, звязаныя з «аб'яднаннем намаганняў па супрацьпаветранай абароне, найперш з боку войскаў СПА Беларусі, Калінінградскага асобага раёна і Маскоўскай ваеннай акругі». Паводле словаў А.Карнукова, у адпаведнасці з рашэннем урадаў і прэзідэнтаў абедзвюх краінаў, «у перспектыве тут будзе створаная адзіная рэгіянальная сістэма СПА з адзіным камандаваннем». Яна ўвойдзе састаўной часткай у адзіную рэгіянальную групоўку войскаў, якую мяркуецца ствараць у пагражаемых перыяд. Цяпер, паведаміў А.Карнукоў, прапрацоўваюцца практычныя пытанні стварэння гэтай сістэмы. ■

## Кубак адправіцца ў Мазыр

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

З лікам 2:1 атрымала перамогу мазырская «Славія» над мінскім «Тарпеда-МАЗ» у фінале кубка Беларусі па футболе, які прайшоў у нядзелю на мінскім стадыёне «Дынама». Падтрымаць мазыранаў прыехала досыць вялікая група балельшчыкаў, так што скандзіраванне «Мо-зыр!» было чутно далёка за межамі стадыёна. Цяпер «Славія» дамаглася права ўлетку распачаць удзел у розыгрышы кубка УЕФА разам з «Гомелем». Барысаўскі ж «БАТЭ» паспрабуе сябе ў Лізе чэмпіёнаў.

Яшчэ адной цікавай падрабязнасцю фінала можна лічыць тое, што пасля аб'яўлення дыктара па стадыёне аб тым, што на гульні прысутнічае старшыня Беларускай федэрацыі футбола Рыгор Фёдараў, трыбуны выбухнулі такім свістам, якім не сустракалі нават з'яўленне на трыбунах А.Лукашэнкі. ■

# «Черный» металл

## Беларусь – удобное место для переработки металлолома в доллары

Наталья РАДИНА

**На днях белорусские спецслужбы прекратили деятельность подпольного литейного цеха, который принадлежал производственно-коммерческому предприятию «ТРД».**

Подпольное производство находилось недалеко от Минска. На его складах было обнаружено более 80 тонн цветного и черного металла с приблизительной оценочной стоимостью в 30.000 долларов.

Фирма «ТРД» была зарегистрирована в Минске в 1998 году и, согласно выданной лицензии, занималась литейным производством в Минском, Смолевичском и Дзержинском районах. Лицензии на сбор цветного и черного металла это литейное «ТРД» не имело, что, однако, не помешало ему создать широкую подпольную сеть поставщиков и скупщиков металла. Механизм заготовки металла был прост: поставщики или сборщики тащили металл с родных заводов, цыгане собирали его по деревням, обворовывали пустующие дачи и везли это добро скупщикам, которые и поставляли сырье на «фирму».

Любопытно, что среди «сборщиков» цветного лома было немало людей, работающих в официальной системе заготовок вторичного сырья. Так, один из таких «заготовителей» ежегодно сдавал государству по 18-20 кг, в то время как для своих настоящих «хозяев» заготовил более 30 тонн лома.

Подпольный литейный цех имел шесть складов, на которых и находились все некогда вынесенные и украденные сборщиками: фабричные отливки, высоковольтные кабели, тросы, всевозможные металлические таблички, дачные «сетки». Не обошлось и без памятников вождей мирового пролетариата. К присутствию обломков бронзового Ленина в куче лома контрразведчики отнеслись довольно спокойно, а вот, когда там обнаружился маленький бюст Феликса Эдмундовича ... С таким надругательством над своим патроном контрразведчики смириться не могли, и теперь спасенный от переплавки бюст Дзержинского живет новой жизнью в одном из кабинетов КГБ РБ.

«ТРД» переплавляла металл на двух производственных базах. Согласно поддельным документам, фирма занималась литейным производством по договоренности с Россией, откуда ей якобы поставлялось сырье. Переплавленный в бруски металл, естественно, в Россию не возвращался, а в качестве «российского товара» беспрепятственно шел из Беларуси (страны транзита для российской продукции) на Запад. В конце концов нелегальное происхождение брусков выдало себя отсутствием положенной маркировки и фирменного знака производителя, что и привело к неприятностям как фирмы, так и ее работающего контингента.

На каждой производственной базе работало по 15 человек. Среди подпольных литейщиков было немало людей, имевших высшее образование. Все – молодые ребята от 24 до 30 лет. Самый старший в команде – сороколетний Сергей М. – занимался нелегким литейным делом, имея в кармане три диплома. В свое время он закончил Высшую партийную школу, Политехническую академию и философско-экономический факультет БГУ. «Этими профессиями я не могу заработать на нормальную жизнь себе и семье...», – объяснил он свой переход в мастеровые.

Конечным пунктом транспортировки продукции были страны Балтии и Германия. Ежемесячно фирма отправляла на Запад 2 машины по 20 тонн отливок цветного и черного металла.

Сегодня фирма «ТРД» обвиняется в безлицензионной деятельности, что чревато лишением свободы до 2 лет. По нашим законам уголовное дело по контрабанде металла возбуждается, если границу пересекает груз стоимостью в 2 тысячи минимальных зарплат. И вот здесь начинаются главные недоразумения. Государственный монополист «Белцветмет» оценил тонну цветного металла в 52 тысячи рублей (примерно 52 доллара). В то время как на «черном» рынке тонна металла стоит от 400 до 600 долларов. Поэтому даже при самом дорогом раскладе 20-тонная фура, по оценкам «Белцветмета», никогда не перейдет опасного рубежа в 2.000 минимальных заработных плат. Хотя реальная стоимость этой фуры несравнимо больше... Поэтому в подобных ситуациях таможенники и спецслужбы не могут возбудить уголовное дело по статьям о контрабанде, а лишь, руководствуясь президентскими декретами №14 и №15, конфисковывают товар.

В такой ситуации руководство фирмы будет привлекаться к суду только за безлицензионную деятельность. И как сообщили корреспонденту НАШАЙ СВАБОДЫ в КГБ, глава фирмы «ТРД» – подставное лицо, за его спиной стоит известная им преступная группировка, которая вот уже 7 лет занимается контрабандой, открывая через подставных лиц многочисленные фирмы. Привлечь преступников к ответственности невозможно, так как юридически они нигде не «засвечены», и никто из подставных руководителей фирм-контрабандистов никогда не выдает истинного «хозяина», боясь за свою жизнь и жизнь близких. Никто не хочет гибнуть за металл. ■





АДУКАЦЫЯ

# У БДУ «новы» рэктар

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**На мінулым тыдні ў Беларускім дзяржаўным універсітэце была дэмакратыя. На паседжанні вышэйшага калегіяльнага органа гэтай навучальнай установы – Аб'яднанай рады БДУ – адбылiся выбары на пасаду рэктара.**

З большага ўсё выглядала як спектакль таму, што, згодна з прэзідэнцкім указам, рэктар БДУ прызначаецца на пасаду і вызваляецца ад яе Лукашэнкам, мае, дарэчы, міністэрскі статус і ўваходзіць у склад Савета міністраў. Ужо болей трох гадоў ім ёсць Аляксандр Казулін. Але цяпер Казуліну, відаць, захацелася быць не проста лукашэнкаўскім прызначэнцам, а абрацца праз дэмакратычную працэдуру ўласна універсітэцкім калектывам. Дзеля гэтага летась у снежні Вучоная рада БДУ выпрацавала палажэнне аб тым, што рэктар «абіраецца Аб'яднанай радай Белдзяржуніверсітэта з далейшым прадстаўленнем ягонай кандыдатуры на зацвярджэнне прэзідэнту Рэспублікі Беларусь». З тэрмінам паўнамоцтваў на 5 гадоў.

Кандыдатура Казуліна, вылучаная амаль усімі універсітэцкімі структурамі, была на таемным галасаванні адзінай. На яе фармальным абмеркаванні выступоўцы выключна хвалілі працу дзеючага рэктара, а прысутны на паседжанні Замяталін, звяртаючы ўвагу на высакародную дэмакратычнасць казулінскага ўчынку, сказаў, што ён на месцы Казуліна, паколькі і так ёсць адмысловы загад Лукашэнкі, на такія выбары не пайшоў бы. У выніку Аляксандра Казуліна перaабралі рэктарам амаль аднагалосна. А на гэтым тыдні, як чакаецца, ён будзе зацверджаны на пасадзе Лукашэнкам. Сумнявацца ў тым не даводзіцца. Як сказаў рэктар БДУ ў сваёй прамове перад галасаваннем, «універсітэту пашанцавала, што ў нас такі прэзідэнт». Па-другое, беларускае ўладнае кіраўніцтва ўважае Казуліна за выдатнага гаспадарніка. Між іншым, такая кіраўніча-гаспадарніцкая дзейнасць на карысць універсітэта і забяспечыла безальтэрнатыўнасць кандыдатуры Казуліна на выбарах рэктара.

У БДУ на сёння навучаецца 16 тысяч студэнтаў, з іх 12 тысяч на стацыянары. Пастаянна ўдасканальваецца агульная матэрыяльная і навукова-тэхнічная база. Калі ў 1996 годзе на балансе БДУ знаходзілася 59, то зараз 116 будынкаў. За гэтыя гады рашэннямі ўрада і Управы справамі Лукашэнкі было перададзена 80.000 кв.метраў плошчы. Універсітэт мае 10 гектараў на возеры Нарач і выкупіў спальны корпус тамтэйшага дома адпачынку. Завяршаецца капітальны рамонт інтэрнатаў БДУ. Выкладчыкі і супрацоўнікі універсітэта маюць самыя высокія заробкі ў сферы вышэйшай адукацыі, пры тым, што сярэдняя вучэбная нагрузка скарацілася на сто гадзінаў. Кіраўніцтва універсітэта арганізавала для іх долевае будаўніцтва двух дамоў.

Да таго ж за Казуліным штогод адчыняюцца новыя факультэты і кафедры; нягледзячы на адсутнасць афіцыйных дачыненняў Беларусі з Радай Еўропы, дасягнутая дамоўленасць аб адкрыцці ў БДУ інфармацыйнага пункта гэтай арганізацыі; каманда КВЗ БДУ стала чэмпіёнам клуба КВЗ. А ва ўнутраным дворыку за дужа кароткі тэрмін быў узведзены, без пераболынвання, проста шыкоўны будынак рэктарата. У тым жа дворыку ў спецыяльным вальеры гадуюцца ваверкі.

Далейшыя планы ў Казуліна таксама немалыя. Мяркуецца, што БДУ разгорнецца гэтак, што праз 5 гадоў на тэрыторыі паміж плошчай Незалежнасці і чыгуначным вакзалам застануцца толькі карпусы універсітэта ды гарвыканкам. У прыватнасці, вуліцу Ленінградскую плануецца пераназваць у Студэнцкую. Пры БДУ з'явяцца свае шпіталь, музей універсітэта і мадэрнізаваная бібліятэка на 900 чытацкіх месцаў, 300 з якіх будуць камп'ютарызаванымі. Прычым карыстацца ёй змогуць не толькі студэнты універсітэта, але і ўсе ахвотныя. А ўжо ў гэтую восень выйдзе ў эфір радыё БДУ, не забудуцца і пра ўласную газету.

Аднак падобных выгодаў, а як вынік, аднясення іх да заслугаў рэктара не надарылася б, каб улады не надалі БДУ статус самай што ні на ёсць прыярытэтнай і галоўнай навучальнай установы ў краіне. Напрыклад, універсітэт вызвалены ад мытных збораў і падаткаў у бюджэт і ў дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды, акрамя адлічэнняў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Да таго, у адрозненне ад астатніх ВНУ, Белдзяржуніверсітэт мае прывілею браць плату за навучанне не паводле курсу Нацбанка, а па курсу «чорнага» рынку. А гэта значная даходная дабаўка да бюджэтнага фінансавання. Таму пераважна БДУ ва універсітэт сапраўды сусветнага ўзроўню падаецца цалкам натуральным і рэальным.

Але разам з тым улады не знаходзяць грошай на стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта з беларускамоўнай адукацыяй. Маўляў, у якасці нацыянальнага універсітэта якраз БДУ як след і выглядае. Хоць у рэальнасці змест шыльды са словам «дзяржаўны», а тым больш «беларускі» амаль зусім не выяўляецца. Узвядзенне ва універсітэцкім дворыку помнікаў Гусоўскаму і Скарыну – не больш, чымсці дэкаратыўнае беларускасная аздабленне, а беларуская мова ў БДУ прысутнічае, прычым часткова, адно што на гуманітарных факультэтах. Згаданае паседжанне эліты ВНУ таксама прайшло выключна па-расійску. Вось таму, мабыць, у такой сітуацыі абрэвіятура БДУ гучыць куды менеей недарэчна, чымсці поўная назва – Беларускі дзяржаўны універсітэт. ■

КАНФЛІКТ

# Ксяндза гоняць з Беларусі

Вольга АНЦЫПОВІЧ

**Не пазней за чацвер, 1 чэрвеня, ксёндз Збігнеў Кароляк мусіць пакінуць тэрыторыю Беларусі. Так вырашылі брэсцкія ўлады.**

Польскі грамадзянін Збігнеў Кароляк, ксёндз касцёла Узвіжання Святога Крыжа, што ў Брэсце, чатыры гады не мог дамагчыся ад беларускага камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў працягнення ягонай рэгістрацыі як святара. Цяпер з-за адсутнасці рэгістрацыі ён абвінавачваецца ў незаконным знаходжанні і вядзенні рэлігійнай дзейнасці на тэрыторыі Беларусі. Па словах начальніка аддзела міліцыі Ленінскага раёна Брэста Аркадзя Касцючыца, на тэрыторыі якога знаходзіцца касцёл, калі ксёндз не пакіне Беларусь да 1 чэрвеня, ён будзе прымусова выдвараны з краіны.

Спробы выдварэння Збігнева Кароляка з Брэста вяліся даўно, але заўважна актывізаваліся пасля прызначэння на пасаду старшыні Брэсцкага аблвыканкама Васіля Далгалёва. 18 сакавіка З.Кароляк быў затрыманы непасрэдна ў касцёле. Тады яго абавязалі пакінуць Беларусь да 14 сакавіка. Пазней была прызначаная новая дата – 20 траўня.

Прыхаджане касцёла, абвясціўшы тры месяцы таму пра свой намер бараніць З.Кароляка ад дэпартацыі, пачалі пікетаваць аблвыканкам з патрабаваннем перагляду рашэння аб выдварэнні ксяндза з Беларусі. Кіраўніцтва аблвыканкама выходзіць да пікетоўшчыкаў адмовілася, але паведаміла пра згоду кардынала Казіміра Свёнтэка пасадзейнічаць у дэпартацыі З.Кароляка – гэтая згода нібыта была атрыманая падчас сустрэчы кардынала з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным. Тым не менш, звязаўшыся з кардыналам К.Свёнтэкам, прыхаджане даведаліся, што ніякіх абяцанняў наконт ад'езда З.Кароляка той не даваў. Каментаваць гэтую сітуацыю журналістам адмаўляюцца і кардынал Казімір Свёнтэк, і сам Збігнеў Кароляк. ■

